Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
В.а. галоўнага рэдактара
і заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, г.Мінск,
вул. Змітрака Бядулі, 6-47.
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ



Серада, 10 лютага 1999 г. №15(546) Кошт свабодны

## Галадоўка каля станка

*Рабочы аднаго з цэхаў Мінскага трактарнага завода Георгій Мухін абвясціў учора галадоўку на працоўным месцы*

Такім чынам Мухін пратэстуе супраць парушэння адміністрацыяй прадпрыемства некалькіх пунктаў калектыўнай дамовы. Ён абураны тым, што кіраўніцтва завода не аплачвае працоўным вымушаныя прастоі, не робіць даплатаў за шкоднасць некаторых работаў, а таксама не забяспечвае рабочых сродкамі гігіены.

Учора Г.Мухін, які з'яўляецца членам Свабоднага прафсаюза, выставіў каля свайго станка плакаты з патрабаваннямі і пачаў работу. Ён мае намер не пакідаць цэх да таго часу, пакуль адміністрацыя трактарнага не выканае ўсіх ягоных патрабаванняў. Прадстаўнікі заводаўпраўлення спрабавалі ўгаварыць Мухіна спыніць галадоўку і абяцалі з часам вырашыць усе праблемы, але безвынікова. Па нашых звестках, учора ў цэху, дзе працуе Мухін, адбыўся сход працоўнага калектыву. Рабочыя падтрымалі патрабаванні галадоўшчыка. Да галадоўкі Георгія збіраецца далучыцца старшыня цэхавай ячэйкі Свабоднага прафсаюза Віктар Лапуцька.

Альгерд НЕВЯРОЎСКІ

## Міліцыя змагаецца з РНЕ

**Вечарам 8 лютага ў Мінску, у раёне плошчы Якуба Коласа, супрацоўнікі міліцыі затрымалі чатырох актывістаў неафашысцкай арганізацыі «Русское национальное единство» (РНЕ).**

Плошча Якуба Коласа стала апошнім часам адным з «кантактных пунктаў» для актывістаў РНЕ. Тут у арганізацыю прымаюцца навічкі, распаўсюджваецца фашысцкая літаратура. Супрацоўнікі міліцыі правялі вобыск членаў РНЕ і даставілі іх ў Савецкі РАУС.

*БелаПАН*

## Крычаў хоча заставацца беларускім горадам

**7 лютага ў Крычаве адбыўся пікет супраць аб'яднання Беларусі і Расіі.**

Арганізавалі яго мясцовыя арганізацыі АГП і БНФ. Дзесяць удзельнікаў пікета трымалі плакаты: «Не — аб'яднанню з крымінальнай Расіяй», «Не — рускаму нацызму», «Мы за вольную Беларусь», «Крычаў — беларускі горад».

Падчас пікетавання было распаўсюджана звыш 200 улётак, бюлетэняў «Хартыі'97», газет дэмакратычнага накірунку. Праз паўгадзіны пасля пачатку пікета на дзяжурнай машыне прыехалі міліцыянты на чале з маёрам: нехта ўжо паспеў данесці ў міліцыю, што ля дома № 17 мікрараёна «Камсамольскі» «абражаюць Расію». Але, пабачыўшы дакументы з дазволам пікетавання, міліцыянты прынеслі свае прабачэнні.

Сяргей НЯРОЎНЫ



# Міністр унутраных справаў пайшоў у адстаўку

*Валянціна Агальца змяніў ягоны намеснік Юрый Сівакоў*

У панядзелак вечарам стала вядома, што прэзідэнт задаволіў просьбу міністра ўнутраных справаў Валянціна Агальца і адправіў яго ў адстаўку. Праўда, Аляксандр Лукашэнка ўсё ж узнагародзіў вернага міністра дадатковай зорачкай на пагоны — у адстаўку В.Агалец пайшоў ужо генерал-лейтэнантам. Як паведамілі нам у прэс-цэнтры Савета бяспекі, былы міністр унутраных справаў пяройдзе на іншую працу, але на якую менавіта — не ўдакладнілі. У той жа дзень «Панарама» перадала інфармацыю «з кампетэнтных крыніцаў», што нібыта Валянціна Агальца чакае дыпламатычная праца, але ўчора ў міністэрстве замежных справаў пра гэта яшчэ нічога не ведалі.

Інфармацыйнае агенцтва БелаПАН паведамляе, што нібыта Аляксандр Лукашэнка паабяцаў Валянціну Агальцу пасаду пасла Беларусі ва Узбекістане. Нагадаем, што напачатку 90-х гадоў В.Агалец жыў і працаваў у сталіцы Узбекістана — Ташкенце і там «засвяціўся» на нейкіх кватэрных махінацыях, пасля чаго хутка з'ехаў у Мінск, дзе быў узяты на службу ў міністэрства ўнутраных справаў.

Ходзяць чуткі, што Агалец пайшоў з пасады кіраўніка МУС пасля таго, як адмовіўся арыштаваць усіх удзельнікаў Кангрэса дэмакратычных сілаў, які праходзіў 29-31 студзеня гэтага года ў Мінску. Калі гэтыя чуткі — праўда, то, відаць, новае месца працы будзе вымушаны шукаць у хуткім часе старшыня КДБ Уладзімір Мацкевіч, які таксама не пажадаў змагацца з «кангрэсменамі». Тым не менш, гэтыя чуткі ў нас выклікаюць вялікі сумнеў: нагадаем, што Валянціна Агальца па праву можна назваць самым жорсткім сілавым міністрам за ўсю гісторыю незалежнай Беларусі. Ён займаў пасаду міністра ўнутраных справаў Беларусі на працягу больш чым трох гадоў — са снежня 1995 года. Менавіта пры ім пацярпела ад міліцэйскіх дубінак і трапіла за краты вялікая колькасць дэманстрантаў, у тым ліку і жанчыны. Пры ім жорстка збіваліся журналісты. Да таго ж, як вядома, лішняя зорачкі Лукашэнка проста так не раздае.

Новым міністрам унутраных справаў стаў былы намеснік В.Агальца, камандуючы ўнутранымі войскамі генерал-маёр Юрый Сівакоў. Юрыю Сівакову 52 гады, ён жанаты, мае дачку.

Міхась КАРПОВІЧ



*Юрый Сівакоў*

# Рэжым не рэгіструе сваіх вязняў

**Заўтра, 11 лютага, Вярхоўны суд будзе разглядаць справу Беларускай асацыяцыі вязняў лукашэнкаўскага рэжыму. Асацыяцыя звярнулася ў вышэйшую судовую інстанцыю з прычыны таго, што міністэрства юстыцыі адмаўляе ёй у рэгістрацыі.**

Улетку мінулага года Асацыяцыя ўжо звярталася ў Вярхоўны суд. Яе патрабаванне не было задаволенае. Дзве галоўныя падставы для такога рашэння: па-першае, суд палічыў, што ў назве арганізацыі выкарыстоўваецца асабістае імя грамадзяніна Лукашэнкі без ягонай згоды; па-другое, сярод заснавальнікаў Асацыяцыі быў непаўналетні Вадзім Лабковіч. Праўда, ніякіх забаронаў наконт удзелу непаўналетніх у законе няма, — але рэч не ў гэтым. Атрымалася вельмі дзіўная сітуацыя: каб сядзець за кратамі за «палітыку» — Лабковіч ўзросту хапае, а вось каб заснаваць грамадскую арганізацыю поруч з сябрамі па няшчасці — не. Апроч таго, у мінюста маецца яшчэ некалькі дробных заўвагаў.

Днямі суддзя Галіна Жукоўская правяла папярэднюю гутарку з бакамі па справе з зацікаўленымі асобамі. Падчас сустрэчы прадстаўнік Асацыяцыі Юрый Хадыка паведаміў, што, згодна з леташнім рашэннем суда, В.Лабковіч выключаны з ліку заснавальнікаў. Што ж тычыцца другой прэтэнзіі, дык Ю.Хадыка заявіў хадайніцтва аб правядзенні лінгвістычнай экспертызы, *«ці ёсць тут выкарыстанне асабістага імя альбо ўсё ж гэта вытворны прыметнік ад прозвішча чалавека, які ўчыняе палітычныя рэпрэсіі»*. Як лічыць Хадыка, *«рэжым тыпалагічна не можа называцца інакш, як па прозвішчы чалавека, які яго стварыў»*.

Суддзя паставілася да хадайніцтва пазітыўна і пачала высвятляць, якія ўстановы маглі б правесці гэткую экспертызу. Але, калі вынік экспертызы станецца адмоўным, заснавальнікі гатовыя на кампраміс: у гэтым выпадку яны назавуць сваю арганізацыю «Беларуская асацыяцыя вязняў рэжыму першага прэзідэнта».

Гутарка ішла на беларускай мове, якой суддзя Г.Жукоўская карысталася абсалютна без цяжкасцяў. Судовы працэс таксама будзе весціся па-беларуску. На пытанне, ці не варта запрасіць на паседжанне перакладчыка, прадстаўнік мінюста Уладзімір Мацвееў запэўніў, што патрэбы ў гэтым няма.

Незалежна ад таго, ці будзе Асацыяцыя зарэгістраваная, Ю.Хадыка перакананы, што яе стварэнне і дзейнасць — вельмі актуальная рэч. На ягоную думку, сёлетняй вясною шэрагі Асацыяцыі, як і яе актыўнасць, значна ўзрастуць.

Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ



## Беларусь – Германія: гуманітарныя ініцыятывы

На мінулым тыдні ў Нямеччыне ў евангелічнай акадэміі Ізэрлон адбылася сустрэча прадстаўнікоў беларуска-нямецкіх гуманітарных ініцыятываў, на якой абмяркоўваліся магчымасці далейшага супрацоўніцтва.

Удзельнікі сустрэчы адзначылі ў рэзалюцыі, што ў апошнія гады *«адчувальна пагоршыліся палітычныя і эканамічныя ўмовы для агульнай працы, а праблемы Чарнобыля губляюць актуальнасць у беларускай афіцыйнай палітыцы»*. Яны выказаліся за магчымасць *«працаваць з усімі дэмакратычнымі сіламі без пачуцця страху перад уціскам і рэпрэсіямі з боку беларускіх уладаў»*.

На сустрэчы ў Ізэрлоне выступіў намеснік кіраўніка кансультатыўна-наглядальнай групы АБСЕ Ханс Петэр Кляйнер, які адзначыў, што Беларусь апынулася перад эканамічным банкруцтвам і ў перспектыве не чакаецца ніякага паляпшэння. Пахаладнеў і палітычны клімат. Беларускія ўлады не прынялі ніводнай рэкамендацыі ад групы АБСЕ па аднаўленні дэмакратыі, у той час як у ліпені скончыцца легітымны перыяд прэзідэнцтва Аляксандра Лукашэнкі.

Алесь ДАШЧЫНСКІ

# За што зачыняюць рэстарацыі ў Беларусі

**Гродзенскае «Бістро» было зачыненае пасля таго, як там пасядзелі апазіцыянеры Сямён Шарэцкі і Віктар Ганчар.**

Напрыканцы студзеня Гродна наведалі старшыня Вярхоўнага Савета 13-га склікання Сямён Шарэцкі і кіраўнік Цэнтрвыбаркама Віктар Ганчар. Яны праводзілі сустрэчу з дэмакратычнымі арганізацыямі Гродна.

Апазіцыянеры — таксама людзі, каб плённа працаваць, ім трэба рэгулярна падсілкоўвацца. Шарэцкі з Ганчаром з гэтай мэтай наведалі гродзенскае «Бістро» на вуліцы Антонава. Невядома, што яны там замовілі, што абмяркоўвалі за сталом, але ўжо на наступны дзень у «Бістро» прыйшла праверка, якая хуценька вынайшла «недаўкладанне прадуктаў», і рэстарацыя была зачыненая. Дарэчы, «Бістро» належыць сыну апазіцыйнага палітыка Мечыслава Гіруця.

Цікава, што гэта ўжо не першы такі выпадак у Гродне. Тры гады таму ў горад прыязджаў Зянон Пазьняк. Ён выступіў у гродзенскім Доме культуры перад вялікай колькасцю людзей. Пасля сходу кіраўнік БНФ паабедаў у прыватнай кавярні. Калі ўлады пачалі разбірацца з гэтым «непажаданым візітам», то дырэктара Дома культуры звольнілі адразу. А гаспадара кавярні замучылі ідэалагічна-выхаваўчымі «размовамі». Маўляў, трэба ведаць, каго можна карміць, а каго — непажадана. Асабліва раз'юшала начальства тое, што да прыходу Пазьняка гаспадар кавярні вывесіў у зале бел-чырвона-белы сцяг.

Гродзенскія ўлады, відаць, вырашылі «біць па страўніку» апазіцыянераў, пакідаючы іх галоднымі. Бо калі гарбыканкам і не зачыніць усе рэстарацыі, дзе перыядычна харчуюцца дэмакраты, дык самі рэстараншчыкі, каб не мець непрыемнасцяў з уладамі, будуць вывешваць на дзвярах шыльдачку: «Апазіцыянераў не абслугоўваем».

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

# Павел Севярынец мае дзесяць намеснікаў

**Другі з'езд «Маладога Фронту» прайшоў у нядзелю ў Мінскім палацы культуры «Сукно». У ім прыняло ўдзел 375 дэлегатаў і некалькі дзесяткаў гасцей з розных рэгіёнаў Беларусі і замежжа. Асноўнай задачай з'езда стала прыняцце спецыяльнага дакумента пад назваю «Маніфест Маладых».**

Сталічныя ўлады да самага апошняга моманту спрабавалі перашкодзіць маладафронтаўцам правесці свой з'езд. Кіраўніцтва МФ нават разглядала варыянты правядзення сойма ў падполлі. У рэшце рэшт улады дазволілі арганізатарам правесці з'езд у памяшканні палаца культуры «Сукно».

«Малады Фронт» лічыць, што 1999 год стане лёсавызначальным для Беларусі, і заклікае моладзь *«згуртавацца вакол нацыянальнай ідэі, не дапусціць паглынання нашай краіны смяротна хворай крымінальнай імперскай Расіяй»*. Як адзначаецца ў прынятым дэлегатамі маніфесце, моладзь павінна аб'яднацца, не зважаючы на разброд у стане палітыкаў старэйшага пакалення. Дарэчы, сталыя палітыкі, ча якіх не вельмі разлічвае моладзь, на з'езд прыйшлі і з усяе сілы хацелі спадабацца маладафронтаўцам. Гэта было заўважна па выступах Сямёна Шарэцкага, Генадзя Карпенкі і іншых. Дэлегатам таксама зачыталі традыцыйныя факсы ад Зянона Пазьняка з Нью-Йорка ды Валеры Навадворскай з Масквы.

Даволі дзіўны стыль абраў вядучы з'езда Павел Севярынец. Адну з частак сойма ён правёў у дыскатэчным стылі, распеўна прапануючы дэлегатам абраць рэдакцыйную і мандатную камісіі. Відаць, маладафронтаўскі лідэр у захапленні ад уласнай ролі «дзі-джэя Адраджэння».

Далей Павел Севярынец, Яўген Скочка і іншыя маладафронтаўскія лідэры сталі гаварыць аб дасягнутых поспехах і вызначаць накірункі дзейнасці МФ на будучыню. Севярынец упэўнены, што «Маладому Фронту» трэба скіраваць свае асноўныя высілкі ў напрамку культуры і адукацыі. Маўляў, прыцягваць моладзь у свае шэрагі трэба праз дыскатэкі, шоу і віктарыны. Большасць дэлегатаў падтрымала Севярынца, але былі і тыя, каму карцела стварыць дружыны па барацьбе з фашызмам. Зрэшты, з РНЕ маладафронтаўцы змагацца будуць, але, як сказаў усё той жа Севярынец, *«наша задача — пераканаць нацыстаў на словах, што ў Беларусі такім арганізацыям, як РНЕ, не месца»*. Які плён дасць такое асветніцтва, сказаць цяжка.

З такой пацыфісцкай пазіцыяй быў абсалютна не згодны прадстаўнік «Хартыі'97» Дзмітрый Бандарэнка, якому днём раней давялося на ўласнай скуры адчуць, якімі аргументамі ў спрэчках з дэмакратамі карыстаюцца рускія «нацы». Бандарэнка лічыць, што пагроза фашызму ў Беларусі стала зусім рэальнай. З'езд пагадзіўся з ягонымі аргументамі, і П.Севярынец урэшце абвясціў, што «Малады Фронт» уключыцца ў работу па стварэнні антыфашысцкага дэмакратычнага супраціву.

Напрыканцы свайго сойма дэлегаты абралі старшынёй арганізацыі Паўла Севярынца (за яго прагаласавала абсалютная большасць). За альтэрнатыўнага дэлегата Яўгена Скочку было пададзена толькі 30 галасоў. Нечаканымі былі вынікі выбараў намеснікаў старшыні Маладога Фронту. Відаць, каб не пакрыўдзіць нікога з кандыдатаў у кіраўнікі, дэлегаты прызначылі Севярынцу ажно дзесяць намеснікаў, сярод якіх і палітвязень Аляксей Шыдлоўскі.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# Гарэлка імя дырэктара

**Яшчэ адзін сорт гарэлкі пачаў выраблясь вядомы ў Беларусі Клімавіцкі лікёра-гарэлачны завод.**

У гэтым факце не было б нічога асаблівага, каб не тое, што гарэлка будзе называцца «Белоусов» — у гонар дырэктара завода.

Сам «герой», Міхаіл Белавусаў, сцвярджае, што ён нібыта не хацеў такога ўшанавання ягонай памяці. Маўляў, ва ўсім вінаватыя ўдзячныя падначаленыя, якія даслалі заяўку на новую назву гарэлкі ў Цэнтральную атэстацыйную камісію, не папярэдзіўшы аб гэтым самаго дырэктара.

**Іван ЗАСАДА**

*ЗДАРЭННІ*

## Сутычка на Лугавой вуліцы

Раніцай 5 лютага жыхар Гомеля Б., рабочы папяровалесахімічнага завода, на асабістым аўтамабілі «Опель-Аскона», не справіўшыся з кіраваннем, выехаў на Лугавой вуліцы на паласу сустрэчнага руху і сутыкнуўся з грузавым аўтамабілем ГАЗ-66. У выніку Б. быў адпраўлены ў рэанімацыю, дзе на наступны дзень памёр ад атрыманых траўмаў.

## Муж загінуў, жонка – у рэанімацыі

6 лютага на аўтадарозе Кобрын—Гомель, каля вёскі Сінкевічы Лунінецкага раёна, сутыкнуліся прыватны аўтамабіль «Фіят» і «Вольва», якая належыць украінскай кампаніі «Луганскгрансспеле». За рулём «Фіята» была яго уладальніца, жыхарка Жыткавічаў С. Яна не здолела справіцца з кіраваннем і выехала на паласу сустрэчнага руху. У выніку здарэння муж кіроўцы ад атрыманых траўмаў памёр, а сама віноўніца аварыі ў непрытомным стане дастаўленая ў рэанімацыю.

## Смяротны «пацалунак» з дрэвам

Непадалёк ад вёскі Валаўск Ельскага раёна, на прасёлачнай дарозе, 6 лютага рабочы мясцовага ляснiцтва Д., кіруючы матацыклам з каляскай «Іж-Юпітэр», які ён пазычыў у знаёмага, урэзаўся ў дрэва. Удар быў настолькі моцным, што Д. памёр на месцы здарэння.

## Скочыў пад колы асабістага трактара

7 лютага ў Круглянскім раёне, каля вёскі Дубоўка, трактарыст калгаса імя Дзімітрава Н. не дачакаўся поўнага спынення МТЗ-80 і выскачыў з кабіны. Неабачлівы трактарыст трапіў пад заднія колы трактара, атрымаўшы пры гэтым смяротную траўму.

## Прычына наезду – снегапад?

У Астравецкім раёне 7 лютага жыхар Гудагая Я. кіраваў асабістым аўтамабілем «Фальксваген-Гольф». Бачнасць на дарозе была дрэнная з прычыны начнога часу і моцнага снегападу. У вёсцы Малі кіроўца наехаў на мясцовага жыхара Л., які ад атрыманых цяжкіх пашкоджанняў памёр на месцы.

*Матэрыял падрыхтаваў* **В.МІХАЛЬЦОЎ**, *пры садзейнічанні УГАІ МУС РБ*







# Курапаты – народная памяць

Рэдакцыя адчувае маральны абавязак вярнуцца да тэмы помніка ахвярам сталінскага тэрору ў Курапатах, бо апублікаваная газетай інфармацыя (№№ 10, 11) займела шырокі чытацкі водгук. Чытацкія меркаванні ўздымаюць праблему ўшанавання памяці пакутнікаў на вышыню агульнанароднага клопату.


*Крыж памяці ахвярам Курапатаў. Дзяды-89. (Здымак з архіву)*

Людзі пішуць, што, калі ўрад і забыўся пра сваю ж пастанову 1988 году аб узвядзенні ў Курапатах помніка ахвярам палітычных рэпрэсіяў, гэта не азначае страты памяці народам. Курапаты назаўжды застануцца сімвалам нацыянальнай трагедыі, такім жа балючым, як Хатынь. Помнік — гэта памяць сэрца, памяць нашчадкаў пра пакуты продкаў, даніна спачування, сумлення, гонару.

Невыкананне пастановы ўзбуджае дзейнасць дробных суполак, якіяналічваюцца выканаць праект помніка і фінансаваць забеспячэнне саматужна. Дылетанцкі энтузіязм часцяком лучыцца з беспадстаўнымі амбіцыямі. Прыкладам, як мы інфармавалі, старшыня «Клуба Спадчына» сп. А. Белы абвясціў сябе аўтарам праекта помніка ў Курапатах і адкрыў рахунак на збор ахвяраванняў, дакладна не ведаючы, які скульптар створыць помнік. «Праект» свайго старшыні бачылі і ўхвалілі сябры суполкі — 70 чалавек. І гэта ўсё на 10-мільённы народ. Пасутнасці, у Курапатах мяркуецца паставіць тое, што нарадзілася ў галаве старшыні суполкі.

У Курапатах сталінскія карнікі расстрэльвалі сялян і рабочых, пісьменнікаў і мастакоў, праваслаўных і атэістаў, бедных і заможных, таму помнік не можа мець адбітак якой-небудзь адной канфесіі, а мусіць адлюстраваць боль усіх ахвяраў, памяць усяго народа. Некаторыя дасведчаныя чытачы выказваюць заклапочанасць актыўнасцю абмежаванай суполкі ў прыватнасці сп. А. Белага, бо за ім ходзіць цень фінансавай сваркі з амерыканцам беларускага паходжання. Людзі лічаць, што святая справа патрабуе поўнай маральнай і арганізацыйнай празрыстасці.

Рэдакцыя НАВІНАЎ перакананая, што стварэнне помніка ахвярам Курапатаў неадменна патрабуе адкрытага конкурсу, з усенародным абмеркаваннем праектаў, з ацэнкай і зацвярджэннем аўтарытэтнай камісіяй з дасведчаных асобаў.

Рэдакцыя НАВІНАЎ звяртаецца да чытачоў, мастакоў, скульптараў, мастацтвазнаўцаў, гісторыкаў з просьбай падзяліцца думкамі пра магчымы помнік ахвярам Курапатаў і неабходныя арганізацыйныя захады.

Шаноўныя чытачы! Свае думкі і меркаванні дасылайце на адрас рэдакцыі з паметкай «Памяць пра Курапаты».

**Рэдакцыя**

 



# Белорусская экономика: степень развала, пути выхода

## *Доклад на Конгрессе демократических сил*

Заканчивается пятилетний срок правления А.Лукашенко. Белорусская экономика подошла к пределу своего морального и технического износа. Ученые и аналитики схожи в одном: «белорусское чудо» в промышленности и сельском хозяйстве ведет нашу страну к краху.

Провалив в первые два года все основные показатели по объемам производства, перебрав несколько моделей своего непонятного пути развития, от узбекского до китайского, А.Лукашенко и его средства массовой информации развернули пропагандистскую кампанию нового экономического курса — рыночного социализма. В качестве подтверждения успехов стали приводиться цифры роста валового внутреннего продукта, начиная с 1996 года:

| Валовый внутренний продукт | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 1994 | 1995 | 1996 | 1997 | 1998 |
| 87% | 90% | 102.6% | 110% | 108% |

В чем же секрет такого роста ВВП в Беларуси за последние три года? Национальный исполнительный комитет проанализировал эти показатели, пересчитав официально опубликованные статистические данные в долларах США по среднегодовому курсу Национального банка. В результате вместо провозглашаемого 10-процентного роста произошло падение ВВП на 1,9% в 1997 году и на 4% в 1998 году. Министерство статистики после резких заявлений Национального исполнительного комитета об очевидных приписках в объеме производства сельскохозяйственной продукции было вынуждено признать не рост, а падение ВВП в 1997 году на 5%. То есть мы имеем дело с сознательным манипулированием цифрами.

В 1996 году Лукашенко накануне референдума и разгона Верховного Совета предложил принять Программу социально-экономического развития Республики Беларусь на 1996—2000 годы.

Главной целью, которую объявили разработчики Программы, было повышение жизненного уровня нашего народа с постоянным приближением к уровню высокоразвитых европейских государств.

Что конкретно выполнено властью?

**Программа:**«Обеспечить прирост валютных резервов Национального банка Республики Беларусь 100 млн. долларов США при полном удовлетворении спроса на валюту на межбанковской валютной бирже».

***Сделано:*** Валютные резервы за два прошедших года уменьшились на 250 млн. долларов. Для белорусской валюты исчезло такое понятие, как межбанковская валютная биржа. В стране катастрофически не хватает валюты на покупку медикаментов, оборудования. Мы не в состоянии рассчитываться за нефть, газ и электроэнергию, накапливаем миллиардные долги. Рассчитываемся продуктами питания, отбирая их у полуголодного народа. В республике установлены пять курсов на покупку валюты, что создает возможности для валютных махинаций под государственным прикрытием.

**Программа:**«Привлечь иностранные инвестиции в 1997 году в объеме 500 млн. долларов, к 2000 году — 1,2—1,5 млрд. долларов». (Правительство подчеркивало, что без решения этой проблемы выход Республики из кризиса невозможен.)

***Сделано:*** Иностранные инвестиции в белорусскую экономику в течение двух лет практически не поступают. Международный валютный фонд, Всемирный банк реконструкции и развития прекратили свою деятельность в Беларуси. Страна названа страной крайнего риска для инвесторов.

**Программа:** Осуществление целенаправленной политики по прекращению «бегства капиталов» и по возвращению их в страну.

***Сделано:*** В стране, вместо притока, наблюдается вывоз капиталов, объемы которого оцениваются примерно в 2 млрд. долларов. Предприниматели и бизнесмены сворачивают свою деятельность, вывозя валюту и вкладывая ее в экономику других стран.

Вместо расширения внутренних инвестиций, развернулась кампания по преследованию бизнеса. При этом весь частный бизнес президент и его окружение стараются взять под свою непосредственную опеку и контроль.

**Программа:** «Обеспечение положительного сальдо внешнеторгового баланса не позднее 1998 года».

***Сделано:*** В 1996 году отрицательный баланс внешней торговли составил 1.287 млн. долларов, в 1997 году вырос до 1.388 млн. долларов, а в 1998 году составил 1.500 млн. долларов. Отметим, что в Эстонии, Латвии, Литве положительный баланс внешней торговли составляет от 0,7 до 1,2 млрд. долларов.

**Программа:** «Макроэкономическая стабилизация не является самоцелью. Она важна постольку, поскольку создает основу повышения реальных доходов населения».

***Сделано:*** Рост цен в 1998



**Геннадий КАРПЕНКО**
*Председатель Национального исполнительного комитета, вице-спикер Верховного Совета РБ XIII созыва*

году достигал 25% в месяц и за год составил 281,7%. В 1997 году рост цен опережал рост зарплаты на 4—6% ежемесячно. В 1998 году это опережение в среднем составило 10—12%. Расчет тарифных ставок по реальному курсу доллара показывает резкое снижение заработной платы — с 80 долларов США до 30.

В 1998 году произошло также и резкое уменьшение среднемесячной пенсии. Сегодня президент и его правительство смогли выделить среднему пенсионеру за его многолетний труд всего 0,33 доллара в сутки, что в три раза ниже установленного ООН порога бедности.

Страну начинает охватывать разгул преступности. Почти на 20% увеличилось количество умышленных убийств, нанесения тяжких увечий, разбоев и грабежей. Страна входит в полосу повального бытового пьянства. За прошедший год задержано более двух тысяч беспризорных детей. Катастрофически (14—16% в год) растет количество самоубийств. В прошлом году свело счеты с жизнью более 3 тысяч человек.

Одной из серьезнейших социальных проблем является защита людей, пострадавших от чернобыльской аварии.

Принятый Верховным Советом закон «О социальной защите граждан, пострадавших от аварии на Чернобыльской АЭС» частично компенсировал нанесенный людям ущерб. Однако спустя четыре года после вступления закона в силу президент Беларуси указом № 349 от 1.09.1995 г. «Об упорядочении некоторых льгот...» приостановил исполнение ряда наиболее существенных статей закона.

В результате по состоянию на 1 января 1999 г.:

— ежемесячные денежные пособия гражданам, проживающим на загрязненных радионуклидами территориях, занижены в 12,8 раза;

— доплаты работающим, учащимся, пенсионерам, проживающим на загрязненных территориях, занижены более чем в 26 раз;

— единовременные компенсации людям, ставшим инвалидами в результате чернобыльской катастрофы, занижены почти в 40 раз и не превышают 35 долларов США;

— компенсации семьям и родителям погибших из-за чернобыльской катастрофы занижены также почти в 40 раз и составляют лишь около 50 долларов США.

Результаты такой социальной политики отражаются в цифрах роста смертности населения. Если за период 1990—1993 годов, до прихода к власти А.Лукашенко, естественный прирост населения в республике составил 50.127 человек, то за период нахождения А.Лукашенко на президентском посту в стране отмечен рост естественной убыли населения. В 1994 году она составила — 19,4 тыс.человек, в 1997 — 47,1 тыс., в 1998 году — почти 50 тысяч человек.

Так выполнены основные разделы Программы социально-экономического развития республики.

В сельском хозяйстве президент ставил задачу выйти на уровень показателей 1990 года. Уже сегодня видна абсурдность такого подхода. Поэтому не случайно ориентир для сельского хозяйства поменялся: теперь нужно стремиться достичь уровня 1994 года, когда президент вступил в должность. Однако показатели работы сельскохозяйственной отрасли показывают: восстановить разрушенное с момента начала правления этого режима не удастся.

Объемы производства сельскохозяйственной продукции с каждым годом снижаются.

Ежегодно более чем на сто тысяч голов уменьшается поголовье скота.

| Поголовье скота, тысяч голов | 1994 | 1995 | 1996 | 1997 | 1998 |
|---|---|---|---|---|---|
| Крупный рогатый скот | 4.589 | 4.234 | 4.061 | 4.028 | 3.920 |
| Коровы | 1.448 | 1.392 | 1.315 | 1.289 | 1.266 |
| Свиньи | 2.458 | 2.332 | 2.220 | 2.257 | 2.208 |
| Овцы | 58 | 36 | 19 | 13 | 9.2 |
| Птица, млн.голов | 22.8 | 18.3 | 19.7 | 20.0 | 20.0 |

Параллельно идет резкое разрушение материально-технической базы колхозов и совхозов.

Парк тракторов с 116.9 тысяч в 1994 году сократился до 92.6 (исправных 66.6), грузовых автомобилей с 66.3 тысяч до 53.6 (исправных 36.9), комбайнов с 24 тысяч до 19.4 (исправных 5.4).

Количество убыточных сельхозпредприятий только за последний год выросло на 282% (с 226 до 639 колхозов и совхозов), а число низкорентабельных (до 5% рентабельности) увеличилось на 131% (с 486 до 640), что в целом составляет почти 50% от общего количества колхозов и совхозов. Количество рентабельных сельхозпредприятий (рентабельность свыше 15%) уменьшилось на 59,1%.

Заявление А.Лукашенко, что в 1999 году он отказывается поддерживать убыточные колхозы и совхозы, свидетельствует о полном крахе его аграрной политики.

Цифры роста объемов промышленной продукции в 1997 и 1998 годах после полного провала в 1994—1996 годах просто впечатляют:

| Показатели роста объемов промышленной продукции по годам (в % к предыдущему году) | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 1994 | 1995 | 1996 | 1997 | 1998 |
| 82,9% | 88% | 104% | 119% | 111% |

Возникает вопрос: за счет чего достигнуто это увеличение, что стоит за цифрами? Одну из причин мы называли: искажение статистической отчетности. Вторая — значительные финансовые вливания в промышленность без учета эффективности ее работы и выпускаемой продукции. Именно политика печатания пустых денег, предоставление необоснованных кредитов привели к резкому росту цен на продукцию, выпуску убыточной продукции, за счет объемов которой и достигнуто повышение объемов производства.

Резко снизилась рентабельность промышленных предприятий: с 29% в 1994 году до 10—13% в последующие годы. В машиностроении в прошлом году рентабельность составила 9,7%, а в химической и нефтехимической промышленности всего 5,8%. Требования по увеличению объемов производства ускоряют разорение промышленности и в целом экономики страны, так как омертвляют огромные ресурсы. Удельный вес готовой продукции на складах вырос в текущем году в 1,5 раза и составил 85,3% к среднемесячному объему.

По сравнению с предыдущим годом производство грузовых автомобилей сократилось на 1,6%, тракторов — на 1,8%, мотоциклов — на 9,5%, кормоуборочных комбайнов — на 33,3%. Свыше 80% производимой продукции не соответствует стандартам и ГОСТам. Ни о какой конкурентоспособности, выходе на мировые рынки с таким качеством продукции рассчитывать не приходится.

На заводах практически не обновляется оборудование. Мощности предприятий используются на 25—30% . Например, МАЗ, выпустивший в 1990 году 42 тысячи автомобилей, сегодня на тех же мощностях выпускает лишь 13 тысяч машин в год. Тракторный завод, способный выпускать более 100 тысяч тракторов в год, выпускает 27 тысяч, Минский мотовелозавод выпускает мотоциклов в 9 раз меньше возможного.

Как быть в сложившейся экономической ситуации?

Необходимо увеличить взаимовыгодные экспортно-импортные операции, в первую очередь — с Украиной, Польшей и Литвой.

Объявить приоритетным создание производств с новыми технологиями и современной техникой.

Нужно восстановить доверие европейского и мирового сообщества к Беларуси. Внешняя политика страны должна быть подчинена потребностям экономики.

Вместо неэффективного таможенного союза перейти во взаимоотношениях с Россией, а также с другими соседями на режим свободной торговли.

Восстановить нормальные дипломатические отношения со странами ЕС и с США, а также партнерские отношения с международными финансовыми организациями.

Сохранить и стабилизировать национальную валюту.

Прекратить скрытое ограбление собственного народа путем инфляционного налогообложения.

Нынешнее белорусское руководство не в состоянии изменить жизнь людей к лучшему. Национальный исполнительный комитет готов вывести республику из кризиса.

*(Печатается в сокращении)*

 

ДУМКА ЧЫТАЧА

# Забойца святароў як прыклад для школьнікаў

Недзе каля месяца назад, уключыўшы беларускае радыё, я пачуў такі, як цяпер кажуць, «пазітыўны факт у жыцці рэспублікі ў наш няпросты час». Размова ішла аб тым, што ў Полацку аднаўляецца дом, дзе калісьці жыў расійскі цар Пётр І, каб праводзіць у ім заняткі з полацкімі школьнікамі дзеля паспяховага выхавання ў іх пачуцця патрыятызму.

Але ж які след пакінуў у нашай гісторыі Пётр І? Хіба невядома работнікам беларускага радыё, а таксама Полацкаму гарвыканкаму ці Полацкаму гарана, што Пётр І — гэта той самы расійскі цар, які ў час Паўночнай вайны ўзарваў у Полацку найстаражытнейшы на Беларусі храм Святой Сафіі, які ўласнаручна здзейсніў у гэтым храме забойства святароў і манахаў. Па ягоным загадзе тады ж быў абрабаваны і знішчаны горад Магілёў, спалены Віцебск. Ды ў многіх іншых месцах Беларусі пакінуў ён свой крывавы след. І вось маем!..

Помнікаў ахвярам расійскага забойцы ў Полацку няма, а вось музей у ягоную памяць адкрыць плануецца.



Прычым на месцы ягоных злачынстваў.

Цікавіць мяне ўзровень гістарычных ведаў супрацоўнікаў Полацкага гарана ды тамтэйшых настаўнікаў, якія будуць праводзіць у гэтым доме «патрыятычнае выхаванне» сваіх школьнікаў. Ці ў Полацку больш не жывуць беларусы? Хутчэй за ўсё, у святле патрабаванняў вышэйшай сённяшняй улады, разлік тут зроблены на планавае, мэтанакіраванае выхаванне «патрыётаў-інтэгратараў». Мала беларусам Суворава — наце вам яшчэ і Пятра!

**І.С.**

# Віленская элегія

Днямі ў сталічнай галерэі *NOVA* (у памяшканні бібліятэкі імя Янкі Купалы) адчынілася выстава твораў знанага фотамастака Яна Булгака. У экспазіцыі — фотапаштоўкі і адмысловыя мастацкія здымкі, зробленыя Я.Булгакам у Вільні і ў вясковых мясцінах Беларусі ў 1930—1940-я гады.



Ян Булгак нарадзіўся на Навагрудчыне ў 1876 годзе, вучыўся ў Вільні і Кракаве. З 1905 года пачаў захапляцца фатаграфіяй і хутка атрымаў міжнародную вядомасць і прызнанне ў выглядзе шматлікіх узнагародаў на выставах і конкурсах. Да Другой сусветнай вайны Я.Булгак жыў у Вільні, быў кіраўніком лабараторыі мастацкай фатаграфіі Віленскага універсітэта. У гэтыя часы майстар стварыў свае знакамітыя серыі гарадскіх відаў Вільні, фотаальбомы з вясковымі краявідамі, здымкамі ваколіцаў возера Нарач і шмат што іншае — каля 10 тысяч здымкаў. Я.Булгак таксама пісаў пра мастацтва фатаграфіі артыкулы і кнігі. На жаль, вялікая частка фотатэкі Яна Булгака загінула ў Вільні ў 1944 годзе. Пасля вайны 70-гадовы майстар пераехаў у Варшаву. Тут ён заснаваў Саюз польскіх фотамастакоў і стаў першым старшынёй гэтага

***Ян Булгак. Краявіды Вільні.***
*Фатаграфіі. 1930*



Саюза. Памёр Ян Булгак у Варшаве ў 1950 годзе.

У мастацкай фатаграфіі Ян Булгак з'яўляецца бясспрэчным аўтарытэтам. Ягоную творчую спадчыну імкнуцца далучыць да сваіх культурных здабыткаў і палякі, і літоўцы, і беларусы. Аднак у нашай краіне, на радзіме славутага фотамастака, захавалася зусім мала ягоных арыгінальных твораў. Амаль усе яны належаць фондам Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Менавіта гэтыя работы Я.Булгака і дэманструюцца на выставе ў галерэі *NOVA*. Гэта пераважна гарадскія фотаэцюды, прасякнутыя пачуццём замілавання куточкамі старога горада. Як сапраўдны мастак Булгак не проста фіксаваў на здымках выгляд пэўных мясцінаў, ён выказваў свае ўражанні і эмоцыі. Экспанаты адкрываюць гледачам свет даваеннай Віленшчыны, ствараюць адзіны вобраз, сугучны назве выставы — «Віленская элегія».

**Алена СУРКО**

*С помощью диеты можно снизить риск онкологических заболеваний*

# Рыба против рака

**Несколько лет назад ученые обратили внимание, что жители Средиземноморья значительно реже, по сравнению с другими народами, умирают от сердечно-сосудистых заболеваний. В ходе лабораторных исследований удалось установить, что не в последнюю очередь это объясняется способом питания. Греки, испанцы, итальянцы, португальцы ежедневно в больших количествах употребляют маслины, свежие овощи, сыры, морепродукты и оливковое масло.**

Сотрудники американского института раковых исследований утверждают, что в 30 процентах случаев возникновения рака причина заключается именно в неправильном питании.

Несмотря на отчаянные усилия по организации тотальной рентгеноскопии, в США сейчас умирают от рака груди 30—40 женщин из каждых 100 тысяч. В то же время в Таиланде, где ранняя диагностика далеко не так распространена, по этой же причине погибают лишь 2—5 женщин на каждые 100 тысяч. Специалисты объясняют это национальными особенностями питания. Проведен серьезный анализ механизма развития раковой опухоли и роли, которую играют на каждой стадии этого процесса вещества, содержащиеся в повседневной пище.

Для предотвращения онкологических заболеваний нужно потреблять как можно больше свежих овощей и фруктов. Витамины С и Е, а также бета-каротины, которые содержатся в них, являются природными антиоксидантами. Но это не все. В винограде и красном вине ученые обнаружили антиоксидант ресвератрол, который снижает риск возникновения рака кожи на 88% (по крайней мере, у мышей). А в зеленом чае содержится целая группа антиоксидантов, один из которых усиливает действие витамина Е в 20 раз, а витамина С — в 500 раз.

О действии пигмента ликопена, который содержится в помидорах, известно давно. Правда, это вещество не очень хорошо усваивается при употреблении свежих томатов, гораздо лучше он поступает в организм, когда мы употребляем кетчуп. Мужчины-любители кетчупа (те, кто употребляет его не менее 10 раз в неделю), в два раза реже заболевают раком простаты, чем те, которые кетчуп игнорируют. Аналогичные данные дает и статистика случаев рака груди у женщин, а также — рака легких и органов желудочно-кишечного тракта.

Особенно целебным является чесночный кетчуп. Ученые открыли, что аллильсульфиды, обнаруженные в чесноке и луке, не дают вредным веществам превращаться в канцерогены.

Для расщепления канцерогенов большую помощь организму оказывают вещества, которые содержатся в брокколи, а также в цветной и кочанной капусте.

Однако самые последние исследования показали, что жир жиру — рознь. Жиры, содержащиеся в кукурузном и подсолнечном масле, способны стимулировать рост онкообразований. А вот компоненты льняного масла и рыбьего жира угнетают рост раковых клеток. Кроме того, они предотвращают закупорку кровеносных сосудов. Вряд ли нужно возобновлять добрую старую традицию пыток рыбьим жиром, но введение в семейный рацион как минимум двух, а то и трех рыбных дней в неделю обязательно. Блюда из рыбы должны появляться на столе как можно чаще.

Конечно, полагаться на одну лишь диету наивно, и люди, которые имеют повышенную степень риска в связи с наследственными или экологическими факторами, должны регулярно обследоваться у онкологов. Однако снизить риск возникновения и даже развития заболевания они могут постараться и сами. По крайней мере, американские диетологи приводят следующие цифры: рак простаты диагностируется у 17 процентов мужчин, а правильная диета может снизить эту цифру на 10—20%. Рак груди диагностируется у 14 процентов женщин, и диета может сократить это число почти вдвое. Рак кишечника выявляется у 6 процентов населения. Снизить эту величину при помощи диеты можно на 66-75%. Количество больных раком легких отказ от курения и правильное питание могут снизить на 90—95 процентов.

*По материалам журнала Newsweek*

# Компьютер – он или она?

**Какого пола компьютеры – мужского или женского? Этой философской проблемой всерьез занялись в Дании. И мнения разделились.**

У мужчин, свидетельствуют данные бюллетеня «Мандаг морген», сомнений нет: основные свойства компьютеров — чисто женские. Вот главные аргументы:

— «Только Создателю доступна их внутренняя логика».

— «Их разговор друг с другом непонятен посторонним».

— «Малейшая ошибка остается в их памяти и постоянно извлекается на свет».

— «Приобретая их, надо готовиться к тому, что половину зарплаты придется отдавать на дополнительное оснащение».

Казалось бы, все сходится. Но лучшая половина пользователей ПК легко разрушает эту систему доказательств. Компьютеры, разумеется, мужчины, считают женщины, и вот почему:

— «Чтобы добиться внимания, их приходится включать».

— «Они оперируют массой бесполезных сведений».

— «Они призваны помогать в решении проблем, но главную из них представляют они сами».

И, вероятно, решающий аргумент:

— «Вскоре после приобретения констатируешь: если бы чуть подождать, досталась бы более удачная модель».

**Дмитрий ГОРОХОВ**



*Прыватныя аб'явы*

**...Комнаты, квартиры, дома, коттеджи и земельные участки в Минске и пригороде...**
**ПОКУПКА, ПРОДАЖА, ОБМЕН, ПРИВАТИЗАЦИЯ**
**Оставить заказ и получить бесплатную консультацию можно по тел. 243-48-61 (с 9.00 до 12.00 и после 19.00).**

**ПРОДАЮ квартиру (53/31,6/8,5) угол З.Бядули/пер.Броневой, 1-й этаж, паркет, телефон, металлическая дверь, решетки на окнах. Т. 2-100-254**

**СНИМУ помещение под офис (90-110 м.кв., 3-4 комнаты с телефонной линией Советского ЛСЦ). Т. 243-48-61 (с 9.00 до 12.00 и после 19.00).**

**ПРОДАЮ дачу (Слуцкое направление, 45 км от Минска, 6 соток, дом 6х6 щитовой, обложен кирпичом, водопровод, времянка, туалет, колонка) недорого. Т.249-35-57**

**ПРОДАЮ холодильник «Саратов-1524М» в очень хорошем состоянии. Мало б/у, 25 у.е. Т. 251-63-02 (после 19.00).**

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996 Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 508 Нумар падпісаны ў друк 09/02/99 (15:00) Наклад — 17.400